Цана 15 гр. „Biełaruski Front" 15 czerwca 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА - РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 12 (46) ||| Вільня, 15 чэрвеня 1939 г. ||| Год IV

## АБ МІЖНАРОДНЫМ КААПЭРАТЫВІЗЬМЕ

У цапяраэднім нумары „Б. Фронту" мы крытыкавалі міжнародную салідарнасьць, якую вясьцяць розныя інтэрнацыяналы, а таксама славянскую салідарнасьць, якую ў форме славянскай ідэі пашыраюць цяпер некаторыя польскія дзеячы. Крытыкуючы гэтыя „салідарнасьці", як міжнародную так і славянскую, мы аднесьліся да іх нэгатыўна, кажучы, што ў сучасных варунках яны немагчымыя, а немагчымыя дзеля тэй *няроўнасьці,* якая існуе паміж народамі ўсясьвету і паміж народамі славянства.

Прыглядаючыся да сяньняшняга міжнароднага жыцьця, трэба згадзіцца з тым, што на сьвеце існуюць з аднаго боку багатыя народы (г. зв. народы - буржуі), а з другога боку бедныя (г. зв. народы-пралетары), бо адны народы маюць усяго ўдоваль, і хлеба, і да хлеба, і сыравіны, і фабрыкатаў, а другія гэтых рэчаў ня маюць. Да першых народаў залічаюць Англію, Францыю, Злуч. Штаты і іншыя, да другіх — Нямеччыну, Італію, Японію і — Саветы. На наш пагляд, Саветаў да пралетарскіх краёў залічыць ня можна, бо гэта багаты край, лепш было-б да народаў-пралетараў залічыць іншыя народы, але гэта не мяняе факту, што на сьвеце існуе сапраўдны, як цяпер называюць, клясавы, падзел на народы багатыя і народы бедныя. Гэтакую самую праяву мы бачым у славянстве, іменна, адны славянскія народы маюць большыя натуральныя багацьці сваіх земляў, другія — меншыя.

Але апроч эканамічнай няроўнасьці існуе яшчэ палітычная няроўнасьць, бо адны народы маюць свае дзяржавы і ўсе магчымасьці палітычнага, нацыянальна-культурнага і гаспадарчага разьвіцьця, а другія ўсяго гэтага ня маюць. Трапляюцца яшчэ, як на міжнародным так і на славянскім грунце, такія факты, што пануючыя і дзяржаўныя народы не даюць дыхнуць іншым народам, адбіраючы ад іх магчымасьці ня толькі нармальнага развою, але і самога жыцьця.

Такім парадкам *дзьве рэчы* перашкаджаюць у рэалізацыі міжнароднай ці славянскай салідарнасьці: *няроўнасьць эканамічная,* або падзел на народы-пралетары і народы-буржуі, і *няроўнасьць палітычная,* або падзел на народы пануючыя і народы паднявольныя. У гэтых дзьвюх няроўнасьцях мы бачым прычыну немагчымасьці рэалізацыі думак і праектаў аб міжнароднай ці славянскай салідарнасьці.

Значыць, першым і галоўным варункам рэалізацыі ўсякай салідарнасьці ёсьць эканамічная і палітычная роўнасьць народаў. З гэтым, здаецца, згаджаюцца ўсе. Але скажа хто, як-жа дайсьці да гэтае роўнасьці? Бо ніводзен багаты народ, так як ніводзен багаты чалавек, дабраволна не зрачэцца сваіх багацьцяў на карысьць другога!

Трэба прызнаць, што ў гэтым закідзе ёсьць шмат праўды і трэба згадзіцца з тымі, якія цьвярдзяць, што ў гэтым прыпадку патрэбен прымус, а нават фізычная сіла, бо маральнай сілы багатыя людзі часта не прызнаюць. Але тут мы спатыкаемся з новай труднасьцяй, бо, дапусьцім, што народы-пралетары бяруць верх і адбіраюць ад народаў - буржуяў усё іх багацьце — дык што тады? Ці мяняецца палажэньне? Не, палажэньне не мяняецца, а мяняюцца толькі ролі дзяржаў, бо народы бедныя робяцца багатымі, а багатыя — беднымі і далей вядзецца заўзятае змаганьне.

Нам здаецца, што шлях да міжнароднай салідарнасьці павінен быць іншы. Пасьля перамогі над пануючымі і багатымі народамі (бяз розьніцы, якой перамогі, маральнай ці фізычнай, цяперашній ці будучай), пераможнікі павінны выступіць з праектам поўнай эканамічнай і палітычнай роўнасьці для ўсіх народаў, каб такім парадкам узыйсьці на шлях рэалізацыі *каапэратывізму* ў міжнародным жыцьці. Усякі іншы спосаб, асабліва спосаб панаваньня і гвалту над іншымі народамі, не давядзе да пажаданага рэзультату.

Падставай і якбы прадумовай да правядзеньня ў жыцьцё гэтага міжнароднага каапэратывізму павінна быць поўная палітычная незалежнасьць кожнага народу, так каб ніводзен народ ня мог накінуць другому народу ня то што свайго палітычнага панаваньня, але свайго грамадзкага ці эканамічнага ладу. Мы, напрыклад, вельмі крытычна адносімся да камуністычнага інтэрнацыяналу, які хоча сілаю накінуць камуністычны лад усім народам, а ў гэтым ліку і беларускаму народу. На наш пагляд, кожны народ павінен сам, бяз ніякага націску звонку, увадзіць у сябе той грамадзкі лад, які найболей адказвае ягонай псыхіцы, гаспадарчым варункам краю і гістарычным традыцыям. У цяперашніх варунках бывае так, што, напрыклад, камуністычны інтэрнацыянал, узгадаваны на расейскай культуры і гісторыі, стараецца накінуць другім народам апроч камунізму яшчэ расейскую культуру і расейскую вялікадзяржаўнасьць, а гэта апошняе робіць яго падобным да даўнейшага царызму.

Калі возьмем, на той прыклад, беларускі народ, дык некаторым беларусам здаецца, што для яго на камунізьме і сьвет зачыніўся. А тымчасам наш народ можа ўзыйсьці на шлях каапэратывізму, або завесьці ў сябе такі грамадзкі і эканамічны лад, які, існуе, скажам, у Літве, Латвіі ці Эстоніі, дзе народ лепш жыве, чым у Саветах. Мы ўважаем, што так як да камунізму, беларусы павінны варожа аднесьціся да кожнага грамадзкага ладу, які хацеўбы нам накінуць нехта чужы. Мы заўсёды стаялі і цяпер стаім на тым становішчы, што грамадзкі лад павінен для сябе стварыць сам беларускі народ. Мы ўважаем, што найлепшым ладам для беларускага народу ёсьць каапэратывізм.

Варочаючыся да міжнароднай салідарнасьці, мы з дасьлешніх разважаньняў зробім такія высновы:

1) Да кожнай салідарнасьці, міжнароднай ці славянскай, патрэбна перш за ўсё поўная палітычная незалежнасьць кожнага народу. Усе клічы аб міжнароднай ці славянскай салідарнасьці, якія выходзяць ад народаў пануючых, зьяўляюцца няшчырымі і бязвартаснымі. Як ня можа быць поўнай грамадзкай салідарнасьці паміж панамі і слугамі, так ня можа быць поўнай палітычнай салідарнасьці паміж пануючымі і паняволенымі народамі.

2) Побач з палітычнай незалежнасьцяй патрэбна яшчэ эканамічная і грамадзкая свабода, каб кожны народ меў магчымасьць завадзіць у сябе такі грамадзкі ці гаспадарскі лад, які ўважае для сябе за найболей карысны. Прыгэтым павінен быць забясьпечаны ўсім народам доступ да зямных багацьцяў першай патрэбы, як жалезная руда, нафта, соль і іншыя.

3) Для вырашэньня палітычных і эканамічных спраў павінен стварыцца міжнародны орган, нешта падобнае да Лігі Народаў, у які ўваходзілі-б прадстаўнікі ад усіх народаў на роўных правох.

Прачытаўшы гэтыя радкі, можа нехта падумае, што ўсё гэта ўтопія і міжнародны каапэратывізм зрэалізаваць трудна. На гэта адкажам, што ў *сяньняшніх варунках* нашы думкі можа зьяўляюцца і ўтопіяй, але ці сяньняшнія варункі будуць трываць вечна? Нам здаецца, што не. Мы пераканаты, што да гэтай „утопіі" чалавецтва будзе ісьці праз цэлы рад „клясавых" войнаў, праз рэвалюцыйныя выступленьні „пралетарскіх" народаў процію „буржуазных", праз вялікае вынішчэньне краёў і народаў, прыгэтым адна „кляса" народаў будзе змагацца з другой. Але ўканцы чалавецтва ўсёжтакі будзе прымушана дайсьці да нейкай салідарнасьці, абапёртай на роўнасьці і справядлівасьці. Бо калі магчымы каапэратывізм паміж паасобнымі людзьмі, дык ён магчымы і паміж паасобнымі народамі.

## АНГЛІЙСКА-САВЕЦКАЯ ІГРА.

Увесь палітычны сьвет з вялікай увагай сочыць за англійска-савецкімі перагаворамі, якія вядуцца гэтак доўга і ніяк ня могуць скончыцца пазытыўнымі рэзультатамі. Англійскія лёрды думалі, што даволі кіўнуць пальцам на расейскага бальшавіка, каб ён скочыў і пайшоў разам з Англіяй біць зьненавіджанага немца, ці якога іншага фашыста. Англійская і француская прэса ўжо некалькі разоў падавала „аўтэнтычныя" весткі, што перагаворы ўжо даходзяць да канца і што англійска - француска - савецкі саюз будзе падпісаны каля 6. VI. Нават сам Чэмбэрлен, стары палітык і дазнаны дыплямат, заявіў афіцыяльна ў англ. парлямэнце, што ў перагаворах з Саветамі вырашаны ўсе важнейшыя справы і асталася толькі дробязь, якая не стане на

перашкодзе да скорага падпісаньня пакту... А тымчасам прыйшла прамова Молатава (31.V), аб каторай мы ўспомнілі ў канцы папярэдняга нумару „Б. Фр.“ — і ўсе спадзяваньні англійскіх і французскіх палітыкаў заваліліся, як гнілы мост на вялікай рацэ...

Што-ж сказаў Молатаў?

У агульных лініях яганая прамова прадстаўляецца так: Заходнія дзяржавы дагэтуль трымаліся прынцыпу нэўтральнасьці і гэтым далі магчымасьць напасьнікам забіраць чужыя тэрыторыі. Калі Гітлер парваў пакт ненападаньня з Польшчай і пакт з Англіяй, тады палажэньне зьмянілася, зах. дзяржавы пачалі будаваць проціўфашыстоўскі блёк. Але ці яны гэта шчыра робяць? Можа хочуць забясьпечыцца ў вадным месцы і вадным кірунку, каб скіраваць напад у другім (напрыклад проціў Саветаў!). Дык трэба пачакаць, пакуль палажэньне ня выясьніцца і дзеля гэтага Саветы павінны паступаць вельмі асьцярожна. Саветы жадаюць гваранцый для ўсіх дзяржаў, якія граніцаць з Саветамі, асабліва для балтыцкіх: Літвы, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі, каб тудою Нямеччына не магла напасьці на Саветы. Апроч гэтага Саветы дамагаюцца неадкладнай помачы для сябе, калі-б яны былі прымушаны выступіць у абароне гэтых дзяржаў. Пакуль Саветы гэтакіх гваранцыяў не атрымаюць, яны ня могуць прыступіць да праектаванага саюзу. Гэтых сваіх варункаў нікому не накідаюць, а тымчасам хочуць пакінуць за сабою вольную руку ў палітычных і гаспадарчых зносінах з Нямеччынай і Італіяй, з якімі хочуць весьці перагаворы...

Гэтая прамова Молатава выклікала ў Англіі і Францыі цэлую буру. Англійская, а асабліва французская прэса не жалела нават горкай лаянкі па адрасу Молатава і савецкай палітыкі. І сапраўды, было за што! Бо памінаючы тое, што Молатаў адкрыў карты ў часе перагавораў (чаго звычайна ў дыпляматычным сьвеце ня бывае), сам зьмест гаворыць многа. Бо прамова Молатава ў перакладзе з дыпляматычнай мовы на звычайную выглядае так: Лёрды, мы ня верым у шчырасьць вашых прапазыцыяў і вашых саюзаў. Знаем вас: калі мы выступім першымі, дык вы можаце нас пакінуць адных, а нават скіраваць удар фаш. дзяржаў проціў нас і дзеля гэтага будзем асьцярожны. Калі будзе напад, дык ня мы, а вы павінны выступіць першымі з усімі сваімі сухапутнымі, марскімі і паветранымі сіламі, а тады ўжо мы выступім. Мы ня можам згадзіцца на нэўтральнасьць дзяржаў, якія ляжаць паміж намі і Нямеччынай, бо іх можа заняць Гітлер і тады мы будзем у сьмяротнай небясьпецы. Дык мы павінны мець права самі іх заняць, на пытаючыся іх, хочуць яны гэтага ці не хочуць. Таксама, каліб на Далёкім Усходзе напала на нас Японія, вы павінны нас бараніць. Хочаце прыняць гэтыя варункі, дык прымайце, а калі не хочаце дык і ня трэба! Пакуль вы на ўсе гэта ня згодзіцеся, ня гневайцеся на нас, калі мы будзем гаварыць з Нямеччынай і Італіяй у гаспадарчых справах.

Гэтакі ў простых славах ёсьць сэнс прамовы Молатава, гэтакае становішча Саветаў і іх апошняе слова. Якія-ж з гэтага вывады.

**Першы вывад:** Англія зразумела, што без Саветаў ёй ня ўдасца зарганізаваць сільнага і скуткоўнага проціўфашыстоўскага блёку. Чэмбэрлен яшчэ хітрыць і праўды ясна ня кажа, але стары Лёйд-Джордж выразна заявіў у англ. парлямэнце: Мы гварантавалі помач Польшчы, Румыніі, Грэцыі і Турцыі, але мы ашукваем самі сябе і іншых, бо мы ў крытычную хвіліну нашых гваранцыяў ня выканаем, з тэй простай прычыны, што ня маем сіл і магчымасьцяў. Наша армія будзе гатова за якія 3 гады, а тымчасам Нямеччына і Італія могуць змабілізаваць каля 15 мільёнаў салдат і могуць разьнесьці нашых саюзьнікаў, пакуль мы пададзём ім помач. Дзеля гэтага трэба за ўсякую цану дагаварыцца з бальшавікамі. Пасьля гэтага Лейд-Джордж у сваей прамове праз дзьве гадзіны хваліў бальшавікоў, іхную веліч і магутнасьць, выказваючы, што Саветы зьяўляюцца адзінай дзяржавай на Усходзе, якая можа бараніць англійскія інтарэсы і англійскія гваранцыі...

**Другі вывад:** Бальшавікі разумеюць, што бяз іх ніякі сільны проціўфашыстоўскі блёк немагчымы, дык чуюцца панамі палажэньня і дыктуюць сваю волю „высокапаважаным“ лёрдам, якія зьвярнуліся да іх з просьбай ратунку. У бальшавіцкай тактыцы крыецца яшчэ, як відаць, жаданьне помсты за Мюнхэн, калі гэтаяж самая Англія гадзілася з Гітлерам, не пытаючыся Саветаў. Бальшавікі ведаюць, што ўсе прыгатаўленьні Нямеччыны скіраваны цяпер ня проціў Саветаў, але проціў Англіі і тых яе саюзьнікаў, якія выступяць разам з ёю. Бальшавікі таксама не забыліся, што Англія мае звычай ваяваць за свае інтарэсы да апошняга **чужога,** але не свайго салдата і заўсёды гатова адступіць ад саюзу, калі ён для яе перастаў быць карысным, або калі можна пагадзіцца з сваім ворагам коштам іншых. Апроч гэтага бальшавікі, карыстаючыся з аказіі, хацеліб узяць пад свае ўплывы Прыбалтыку і вярнуцца там на свае „гістарычныя“ граніцы.

**Трэці вывад:** Уся сіла нямецкіх прыгатаўленьняў скіравана цяпер проціў Англіі, як свайго найсільнейшага і найбагацейшага ворага. Разьбіўшы беднага і малога ворага, слабая з яго карысьць, але разграміўшы вялікага „буржуя“, будзе чым пажывіцца. Апроч гэтага Нямеччына, перамогшы Англію, адразу здабылаб гэгэмонію ў Эўропе, а праз калёніі і ўплывы на ўсім сьвеце. Разграмленьне другога „буржуя“ — Францыю і скарыстаньне з ейных багацьцяў, Нямеччына, здаецца, пакідае Італіі.

Пасьля ўсіх гэтых вывадаў, трэба зрабіць яшчэ адзін, іменна, сумная доля ўсіх дзяржаў, якія ляжаць паміж Нямеччынай і Саветамі, асабліва ў Прыбалтыцы. Яны ўсе ў адзін голас заяўляюць, што ня хочуць ніякіх гваранцыяў ані з боку Англіі ані з боку Саветаў, ведаючы, што Англія сваей гваранцыі спаўніць ня можа, а выкананьне ўсіх сваіх забавязаньняў даручыць Саветам, а Саветы, спаўняючы свае і чужыя забавязаньні, ўвядуць сваю армію на тэрыторыю Прыбалтыцкіх дзяржаў, а гэта азначае канец іх незалежнасьці.

Гэтак прадстаўляецца англійска-савецкая ігра ў сваей сутнасьці і ў сваіх вывадах. Як бачым, ігра глыбокая і за ею трэба сачыць з вялікай увагай. З гэтага ўсяго відаць, што Саветы адразу ня выступяць і ў вайну ад самага яе пачатку не палезуць, дзеля гэтага ня хочуць сябе вязаць ніякімі пактамі. Яны будуць чакаць канца вайны, каб у адпаведны момант задэцыдаваць аб перамозе.

Для беларускай справы гэта горшы выхад. Для бел. народу былоб карысьней, каб Саветы адразу выступілі, тады беларуская справа, магчыма, былаб пастаўлена на аднэй ці другой старанаю на парадак дня, так як была пастаўлена на пачатку Вялікай вайны (1914 г.) ў адозьве В. князя Мікалая Мікалаевіча польская справа.

А ўрэшце не забягайма наперад!

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Разчараваньне УНДО.** Украінская газэта „Націoнальная Політика“ (орган УНДО) у апошніх нумарох затрымліваецца над банкруцтвам нармалізацыйнай палітыкі з польскім грамадзянствам. Наўперад у артукуле „Яшчэ адно польскае — не“! (4.VI) выкідае польскаму грамадзянству, што ў часе апошніх самаўрадавых выбараў у Львове не дапусьціла ў гарадзкую раду **ніводнага** ўкраінскага прадстаўніка, хоць украінскага насельніцтва ёсьць у Львове 60 тысяч!

У наступным нумары (11.VI) „Нац. Політика“ затрымліваецца над цікаваю ігрою польскае прэсы ў укр. справе. На пачатку існаваньня Польскае дзяржавы польская прэса ўсьцяж цьвярдзіла, што польска-ўкраінскія адносіны ненармальныя і іх трэба знармалізаваць. Прыгэтым пол. прэса заяўляла, што польскае грамадзянства хоча гаварыць, толькі бяда, што ўкраінцы ня хочуць — і як можна завадзіць нейкія рэформы, калі ўкраінцы ўхі-

# Рэвіндыкацыя „украдзеных душаў“.

Чытачы могуць запытацца што гэта такое „украдзеныя душы“, хто зьяўляецца злодзеям, а хто праўным собсьнікам гэтых душаў? Пытаньне зразумелае, бо сапраўды аб „украдзеных душах“ у беларускай прэсе нічога ня пісалася і ня пішацца. А тымчасам у польскай прэсе аб гэтага роду душах часта спатыкаюцца ня толькі інфармацыйныя весткі, але і даўгія артыкулы. Сам тэрмін у польскіх газэтах атрымаў усе правы і скланяецца на ўсе лады.

Дык што такое трэба разумець пад „украдзенымі душамі“? Аказваецца, мае гэта азначаць тыя польскія душы на „крэсах“, якія прысабечылі беларусы, украінцы, праваслаўная царква, ды ўкраінскі вуніяцкі касьцёл. У разважаньнях польскае прэсы справа прадстаўляецца так, што на працягу стагодзьдзяў на беларускіх і ўкраінскіх землях сялілася многа польскіх асаднікаў вайсковых і цывільных,— „rycerzy kresowych“—каторыя нясьлі беларусам і ўкраінцам польскую культуру, баранілі „kresów polskich“, але з часам падступна або сілком былі зьбеларушчаны ці зукраінізаваны, навернены на праваслаўе, або вуніяцтва. Патомкі гэтых „rycerzy“ раскіданы сяньня па беларускіх ды ўкраінскіх вёсках, хвальварках, мястэчках. Яны зьліліся з акружаючай іх чужой нацыянальна масай і забыліся аб сваім польскім паходжаньні. Дык неабходна іх знайсьці, прыпомніць ім іхніх продкаў, навярнуць на польскасьць і навучыць, што маюць рабіць пасьля свайго адраджэньня ў новых абставінах. Трудна, зразумела, іх шукаць, бо душы гэтыя расклаліся, але польская прэса праканана прынамсі ў вадным: душаў гэтых ёсьць вельмі і вельмі многа... А што да труднясьцяў шуканьня дык яны не павінны нікога пужаць, бо і ў Сьв. Пісаньні гаворыцца: „шукайце і знойдзеце“!

І пачаліся шуканьні...

Галоўна ў „Polsce Zbrojnej“, „Gazecie Polskiej“, „Kurjerze Porannym“, рэпрэзэнтуючых пагляды войска ды афіцыяльных сфэраў „Ozonu“, зьвяртаецца шмат увагі на гэтую справу і там можна пазнаёміцца з характарам гэтых шуканьняў і іхнімі рэзультатамі.

Вось-жа перш-на-перш гэтыя ўкрадзеныя душы абымаюць дробную шляхту (г. зв. „szlachta zagrodowa“). Гэтая дробная шляхта, раскіданая на „крэсах“, мае быць польскага паходжаньня. Яна пераважна забылася аб сваім паходжаньні, вялікай ролі яе продкаў, старажоў польскасьці на крэсах і ў значнай меры зьбеларушчылася ці зўкраінізавалася. Трэба ачысьціць яе ад гэтага налёту, арганізаваць і стварыць з яе першыя польскія вастраўкі на бязмежных беларускіх і ўкраінскіх „крэсах“. Мы бачым, як паўстаюць арганізацыі гэтай шляхты, як ажыўляецца яе роля, як растуць яе выдавецтвы, асабліва на ўкраінскіх землях. Побач з паваенными польскімі асаднікамі і наехаўшымі на крэсы піонэрамі польскай культуры ды мясцовымі польскімі землясобсьнікамі, гэтая дробная шляхта мае быць апорай польскасьці тут у нас.

Але ня толькі дробная шляхта мае быць польскага паходжаньня. Многа палякаў па паходжаньні знаходзіцца між сялянскай масай.

Гэта патомкі польскіх асаднікаў, не натолькі ўжо „дабрародных“, як шляхта. Яны з вякамі зусім зьліліся з чужым сялянскім асяродзьдзем. Знайсьці іх страшэнна трудна. Але ўсё-ж іх удаецца дзе-не-дзе адкрыць. Як-жа ўрачыста адбываецца паварот іх да польскасьці! З некаторых мясцовасьцяў нас паведамлялі, што перад хатай гэткага адкрытага паляка зьяўляліся мясцовыя „стральцы“ (strzelcy) або іншыя польскія арганізацыі часта з музыкаю і Польскім Арлом. Азнайміўшы гаспадару, што ён паляк, кіраўнік урачыстасьці перадаваў яму Польскага Арла, якога гэткі гаспадар, як паляк, павінен мець у хаце на пачэсным месцы. Паколькі, аднак, адшуканьне дробнай шляхты ня робіць труднасьцяў, бо шляхта гэтая напр. сацыяльна выдзяляецца з мясцовай масы, патолькі шуканьне патомкаў польскіх асаднікаў між сялянскай масай натыкае на вялікія перашкоды, галоўна таму, што гэтыя патомкі зусім зьліліся з мясцовым насельніцтвам. Цікава было-б пачучь, якімі паказьнікамі кіруюцца тут рэвіндыкатары „ўкрадзеных душаў“.

У „Gazecie Polskiej“ былі зацемкі, што ў гэтым прыпадку часта памагае рэстаўрацыя прозьвішча. Сэнс рэстаўрацыі палягае на тым, каб са збеларушчанага або ўкраінізаванага прозьвішча ўмець адчытаць польскае прозьвішча продка. Прыкладам, калі цяпер селянін мае прозьвішча „Кавалюк“, дык яно паўстала з польскага „Ковальскі“ і г. д. „Gazeta Polska“ ад часу да часу падае шмат гэткіх сапсутых польскіх прозьвішчаў, аднаўленьне якіх сьведчыць аб „польскім паходжаньні“ іхніх носьбітаў. „Кражу“ гэтага роду душаў можна прыпісаць атракцыйнай сіле беларускай і ўкраінскай масы, у якой польскія асаднікі асымляваліся. „Злодзеям“ тут зьяўляецца чужая нацыя. Але побач з гэтым былі і іншыя дзейнікі, каторыя пажывіліся польскім элемэнтам на „крэсах“. Гэтымі дзейнікамі зьяўляюцца праваслаўная царква на Беларусі і ўкраінскі вуніяцкі касьцёл. Аб апошнім мы ня будзем гаварыць, бо яго на беларускіх землях бадай што няма.

Якім парадкам праваслаўная царква тут у нас, ды агулам у Беларусі, загарнула польскія душы? На гэтае пытаньне ўспомненая прэса дае гэткі адказ. Пасьля падзелаў Польшчы і далучэньня цяперашніх „крэсаў“ да Расеі, праваслаўная царква на беларускіх землях прыймае выразны маскоўскі характар і ў руках маскоўскае ўлады ператвараецца ў аружжа русыфікацыі праваслаўнага насельніцтва. Масква ад падзелаў Польшчы шырыла прымусам праваслаўе коштам вуніі і каталіцтва на загорнутых землях і заўсёды лічыла праваслаўных расейцамі. А дзеля таго, што ад падзелу Польшчы на „крэсах“ шмат было палякоў праваслаўных, або вуніятаў, ня кажучы ўжо аб каталіках, дык гэтыя палякі, прымусам або подступам наверненыя ў праваслаўе тым самым рабіліся расейцамі. З гэтага гледзішча польская прэса думае, што сярод праваслаўных на „крэсах“ можа быць шмат палякоў з паходжаньня. Няма патрэбы, каб яны зьмянялі праваслаўную веру, аднак прыпомніць сваё польскае паходжаньне яны павінны. А калі наступіць іхняе польскае ўсьведамленьне, яны пакінуць расейскія або

ляюца ад усякага супрацоўніцтва з палякамі, апіраючы сваю палітыку выключна на нэгатывізьме... З бегам гадоў, кажа газэта, упала кітайская сьцяна, якая аддзяляла ўкраінцаў ад палякаў, бо цэлыя масы ўкраінцаў прызналі сябе грамадзянамі Польскае дзяржавы і выявілі жаданьне ўзяць поўны і роўнарадны ўдзел у дзяржаўным жыцьці, ў самаўрадзе, ва ўсіх галінах публічнага жыцьця. Некаторыя з украінцаў думалі, што палякі хочуць шчыра нармалізацыі адносін і калі толькі з боку ўкраінцаў упадуць усе істотныя перашкоды да нармальнага сужыцьця, наступіць поўнае паразуменьне. Аднак гэта ня сталася, польскае грамадзянства ад шчырага супрацоўніцтва ўхілілася. Найгорш, здарылася так, што некаторыя прадстаўнікі поль. грамадзянства (Ст. Грабскі) заяўлялі, што ўкраінцы, як працаўнікі, патрэбны ў ролі цэмэнту, які могбы аб'яднаць усё польскае грамадзянства!...

„Нац. Політика“ да гэтага дадае, што такая тактыка ёсьць адным з ведамых і старых правіл кіраваньня дзяржавай. Людзі часам ствараюць унутры дзяржавы ворага, каб з ім бязупынна змагацца і гэтым адварочваць увагу грамадзянства ад сваіх собскіх сварак і непарадкаў. Такімі ворагамі ў Нямеччыне ёсьць, напрыклад, жыды — кажа газэта.

Далей, калі некаторыя ўкраінскія палітыкі публічна заяўлялі, што яны стаялі на грунце абароны Польскае дзяржавы, такія ўкраінскія дэклярацыі польская прэса называла падазронымі і крывадушнымі, а ўсе нармалізацыйныя ходы ўкраінцаў уважала за тактыку і апартунізм. Чаго-ж хоча польская прэса? — пытаецца „Нац. Політика“ і дзе мяжа польскіх вымаганьняў? На гэтае пытаньне адказвае так: Гэтая мяжа былаб асягнута хіба толькі тады, калі б украінцы пазьменьвалі мэтрыкі і прозьвішчы, пачалі ўжываць толькі польскае мовы, зьмянілі календар і правапіс і ўканцы прызналі толькі польскія інтарэсы. Тады сапраўды наступіўбы супакой, але гэта быўбы цьмінтарны супакой на магіле ўкраінскай нацыянальнай ідэі“ — канчае „Нац. Політыка“.

Гэтакім парадкам бачым поўнае банкруцтва нармалізацыі адносін паміж палякамі і ўкраінцамі. Для нас гэтае банкроцтва не зьяўляецца неспадзеўкай: мы заўсёды цьвярдзілі аб псыхічным непадгатаваньні польскага грамадзянства да нармалізацыі адносін з славянскімі нац. меншасьцямі.

Апроч банкроцтва палітыкі УНДО на грунце нармалізацыі спасьцерагаецца яшчэ банкроцтва гэтай партыі на ўласным украінскім грунце. І так, у часе выбараў у цэнтральныя ўлады „Просьвіты“ (9.VI) праваліліся ўсе кандыдаты УНДО, а прайшлі іх палітычныя праціўнікі, у тым ліку Сьвята-Юрскія кандыдаты, як кажа „Słowo“.

**ОЗН і жыды.** Выдаваная ў польскай мове жыдоўская газэта „Nasz Przegląd“ (9.VI) піша, што “нацыянальныя меншасьці, а значыцца і жыды, атрымалі мандаты з рук ОЗН-у, бо натуральны выбар быў немагчымы дзеля выбарчага закону“. Далей гэтая газэта кажа, каб жыды не крыўдавалі, дык Прэзыдэнт Польшчы назначыў рабіна Рубінштэйна на сэнатара.

Гэтым жыдоўская прэса сьцьвярджае, што выбары ў сойм былі залежны ад кіруючай партыі ў Польшчы, г. зн. ОЗН-у. Гэта выясьняе, чаму няма ў польскім парлямэнце беларусаў: проста кажучы, польскія кіруючыя кругі іх там не хацелі мець!

**Яшчэ аб славянскай ідэі.** Укр. „Нац. Політика“ (4.VI), адказваючы на артыкул ген. Жэлігоўскага: „Ave Caesar, morituri te salutant“, так піша; „Думаем, што ніхто з славян ня хоча быць нямецкім „глядыятарам“. Ня хочуць гэтага і ўкраінцы. Але няхай пав. аўтар здабудзецца на большы аб'ектывізм і сам скажа, ці часам самі славяне не нясуць найбольшай віны? Чамусьці так складаецца, што славяне могуць з кожным згаварыцца, а толькі ня з іншымі сваімі „братамі“ славянамі. Ці ня было такіх прыкладаў, што славяне браталіся з гуннамі проціў іншых славянскіх народаў? Славянская ідэя ня мае між дазнанымі ў гэтай справе ўкраінцамі найменшай прыцягваючай сілы. Усё гэта фразы, ня маючыя рэальнага зьместу. Няволя, якую славянін дае славяніну, ня ёсьць ані трохі лягчэйшай за тую, якую славяніну дае германец. Кіём яго ці палкаю — якая розьніца“?

Як бачым, проціў „славянскай ідэі“ ўкраінская прэса выступае вельмі востра.

# На беларускім грунце

## САМАЎРАДАВЫЯ ВЫБАРЫ Ў БЕЛАСТОКУ.

14.V. адбыліся ў Беластоку выбары ў Гарадзкую Раду. У выбарах праявілася вялікая актыўнасьць беларускага насельніцтва ў Беластоку, якое ўзяло ў выбарах дзейнае ўчасьце. У рэзультаце мясцовыя беларусы, у тых акругох, дзе былі беларускія кандыдаты, галасавалі выключна на сваіх кандыдатаў і ўвялі ў Гарадзкую Раду двух радных беларусаў: гр. гр. Лявона Богуша і Александра Бароўскага, а такжа двух заступнікаў гэтых радных: гр. гр. Сымона Кузьміна і Мікалая Грыцука. Яны фігуравалі на выбарчых лістах ад беластоцкіх Прафэсыянальных Саюзаў, як беларусы, і ППС тут ніякага ўплыву ня мела. Праўду кажучы, ППС не правяла ніводнага свайго партыйнага кандыдата, хоць іхныя „партыйцы“ займалі на лістах першыя месцы. Насельніцтва іх збайкатавала. Дзеля гэтага озонаўскі „Kurier Białostocki“ (Nr 86) пытаецца, хто гэта зарганізаваў акцыю скасаваньня прозьвішчаў пэпээсаўскіх кандыдатаў, якія стаялі на выбарчых лістах на першых мясцох? Бо спасярод шасьцёх радных, якія прайшлі ў Гарадз. Раду па лісьце ППС і якія фармальна лічыліся пэпээсаўскімі, няма ніводнага пэпээсаўца?

Паставіўшы гэтае пытаньне, „Kurier Biał.“ прызнае, што ў Раду прайшлі два беларусы і гэта для озонаўскай газэты зьяўляецца незразумелым. Як-жа, у Беластоку беларусы! Гэта-ж немагчыма! Найхутчэй тут уплывы камуны!.. І бедны озонаўскі орган, баючыся беларусаў, ужо згадзіўся з думкай, што ў Беластоку пануе камуна. А нам здаецца, што справа прадстаўляецца інакш. Трэба ведаць, што ў Беластоку ёсьць каля 9.000 праваслаўных, з гэтых, паводле аблічэньняў тамашняга праваслаўнага духавенства, ёсьць 500 расейцаў, а рэшта — беларусы. Апрача гэтага жыве там шмат беларусаў каталікоў. Вось гэтыя беларусы і выбралі двух сваіх радных! У гэтым і крыецца ўвесь сакрэт беластоцкіх выбараў: **беларусы выбралі беларусаў!**

## БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ВІЛЕНСКАГА ВАЯВОДЫ.

Дня 6.V. б. старшыні трох зачыненых беларускіх арганізацыяў у Вільні: Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры — кс. В. Гадлеўскі, Т-ва Беларускае Школы — адв. Ф. Стэцкевіч і Бел. Гаспадарскага Зьвязу — др. Я. Станкевіч былі прыняты новым Віленскім Ваяводай, А. Марушэўскім, на аўдыэнцыі ў справах культурна-прасьветных беларускага народу. Дэлегацыя прадставіла п. Ваяводзе сумнае палажэньне бел. народу ў межах Польшчы, крыўду з прычыны зачыненьня арганізацыяў, якія працавалі над уздоймам народу ў галіне школьніцтва, культурна-прасьветнага і эканамічнага жыцьця і прасіла п. Ваяводу адчыніць гэныя арганізацыі, так як адчыняюцца літоўскія, або пазволіць на закладзіны новых, якія-б памагалі разьвіцьцю ў белар. народзе школьніцтва, прасьветы і гаспадарчага жыцьця. П. Ваявода на гэта заявіў, што ён пакульшто ня можа даць ніякага канкрэтнага адказу, бо яшчэ не зар'ентаваўся ў сытуацыі. На пытаньне дэлегацыі, у якім часе можна спадзявацца канкрэтных дэцызыяў, п. Ваявода ня даў пазытыўнага адказу. На пытаньне ці п. Ваявода мае інструкцыі ў беларускай справе з цэнтру, Ваявода адказаў, што калі б і меў, дык ня мае абавязку іх выяўляць. На гэтым аўдыэнцыя скончылася.

---

беларускія рады, у якіх зусім непатрэбна апынуліся. На гэтых асновах у вапошнія часы мы наглядаем асьведамляючую і арганізацыйную акцыю сярод праваслаўных палякаў. Зразумела, да гэтых праваслаўных палякоў належаць і тыя праўдзівыя палякі, каторыя з тых ці іншых прычын у вапошнія два 10-годзьдзі перайшлі ў праваслаўе, але не аб гэткіх тут ідзе гутарка. Асьведамляючая акцыя мае на мэце тых, што забыліся аб сваім польскім паходжаньні. Вось-жа гэтыя праваслаўныя палякі пачынаюць арганізавацца. За апошнія месяцы газэты прынесьлі весткі аб утварэньні саюзаў праваслаўных палякаў у Вільні, Горадні, Наваградку, Баранавічах, Маладэчыне, Слоніме, Валожыне і іншых мясцовасьцях. Ковалев, Бѣляев, Морозов, Кармазин і ім пад. усьведамілі сабе сваё польскае паходжаньне і на арганізацыйных зборках выразна заманіфэсталі сваю польскасьць; выказваючы прыгэтым жаданьне, каб праваслаўе ў Польшчы быў вернены яго польскі характар. Адначасна высылаліся „hołdownicze depesze“ у Варшаву. Гэткім парадкам, як бачым, арганізацыйны рух праваслаўных палякаў набраў даволі шырокага размаху і можна сказаць, што ён разьвіваецца ў нас ня горш ад руху дробнае (zagrodowej) шляхты. Апошнім часам у Горадні і Вільні паўстала нават прэса праваслаўных палякаў, а ў Горадне стварыўся і Праваслаўны навукова-дасьледчы інстытут.

Пералічаныя катэгорыі „ўкрадзеных душаў“ фактычна больш менш выразна азначаюць межы, ў якіх магчыма гэтых душаў шукаць. Падчыркнем тут яшчэ раз, што паводле польскай прэсы, маральнай асновай да адабраньня гэтых „душаў“ і звароту іх „праўнаму собсьніку“ ёсьць іхнае польскае паходжаньне. Выплывалаб з гэтага, што ўсе іншыя душы, ня маючае кляйма польскага паходжаньня, павінны былі б астацца за абрубам інтарэсаў акцыі рэвіндыкацыйнай. Аказваецца, аднак, што справа прадстаўляецца інакш. У тэйжа польскай прэсе зьяўляюцца разважаньні, на аснове каторых пададзеныя намі на пачатку паймо „украдзеных душаў“, павінна былоб значна пашырыцца і паглыбіцца. Гэтак у „Kurierze Wileńskim“ (4.VI.39 г.) зьявіўся артыкул А. Банцэвіча пад загалоўкам „Walka o „rząd dusz“, у якім аўтар, кажучы, быццам каталіцкі касьцёл, вунія і праваслаўная царква на беларускіх землях да падзелаў Польшчы, былі па сутнасьці сваей польскімі, і падсказвае думку аб неабходнасьці спольшчаньня царквы (касьцёл ужо спольшчаны, а вуніі няма). Паводле аўтара вунія і польскі характар праваслаўнай царквы былі зьнішчаны сілком расейскай уладай пасьля далучэньня беларускіх земляў да Расеі (дзякуючы падзелам Польшчы). Паводле аўтара найважнейшым доказам даўнейшае польскасьці вуніі і царквы на Беларускіх землях зьяўляецца хоцьбы той факт, што ў вабароне гэтай польскасьці выступіў сам народ („lud“). Аўтар паклікаецца тут на вершы Фр. Богушэвіча „Свая зямля“ і „Хрэсьбіны Мацюка“ і цытуе вынятк зь іх, ілюструючыя апор вуніяцкай і каталіцкай беларускай вёскі наварочваньню на расейскае праваслаўе. Абмінём ужо тое, што аўтар у кожным вершы робіць некалькі памылак гістарычных і няведае гэткіх кардынальных рэчаў, як тое, што ня толькі праваслаўная царква ў Беларусі ніколі ня была польскай, але нават **каталіцкае** насельніцтва **Вільні** яшчэ ў XVIIст. нічога супольнага ня мела з польскасьцю (аб чым сьведчыць хоцьбы факт непрыняцьця біскупам паляка Мацееўскага з прычыны яго польскага паходжаньня) і што польскасьць на беларускіх землях зрабіла найвялікшыя поступы коштам беларушчыны якраз пад уладай расейскіх цароў. Цікавай ёсьць сама тэза аўтара аб **польскасьці** беларускай царквы, бяз агляданьня на аргумэнтацыю. Натуральна аўтар ані словам не ўспамінае аб беларускім народзе як такім, маючым сваю гісторыю і будуючым сячьня сваю нацыянальнасьць побач з іншымі народамі. У Банцэвіча ёсьць толькі „poczciwy ludek tutejszy“, быўшы некалі польскім. Тэза артыкулу ёсьць цікавай тым, што нязвычайна павялічвае „ўкрадзеныя душы“. Прыняўшы яе, можна сьмела сказаць, што на „północno-wschodnich kresach“ не астанецца ані воднай душы, каторая-б не падлегала павароту да поўнага польскага собсьніка... Ня трэба спэцыяльна падчыркваць, што яна зьяўляецца дасканальным дапаўненьнем тэзы аб шляхце і праваслаўных палякаў...

Думкі, выказаныя ў „Кур. Віл.“ спатыкаюцца і ў іншых часапісах. Толькі ў „Кур. Віл.“ яны найбольш цынічна выяўлены і найбольш цынічна праглядае мэта іх выяўленьня.

А якаяж ёсьць гэта мэта? Да чаго мае давесьці рэвіндыкацыя „ўкрадзеных душаў“? З вышэйшага відаць, што мэтай ўсей акцыі ёсьць „паварот да польскасьці“. Між гэтымі трыма славамі праглядае крыху выразьнейшае і больш зразумелае яе ўняцьце, на якое хопіць толькі аднаго слова: **асыміляцыя.** Слова гэта, аднак, ані ў ваднэй зацемцы, прысьвечанай „украдзеным душам“, не спатыкаецца. Чаму? І тут справа прадстаўляецца надта проста. Беларускае грамадзянства добра памятае кліч Сат'а-Мацкевіча, „адносна беларусаў — асыміляцыя“. Сат шчыра паставіў гэтае заданьне польшчыне на беларускіх землях. Аднак, бяспрэчна, скланяць гэтае слова — небяспечна. Яно можа выклікаць рэакцыю нават у найбольш пасыўным грамадзянстве, асабліва калі асыміляцыя павядзецца бязлітасна і хоцьбы бяз ценя маральнасьці. Трэба стварыць хоць фікцыю „маральнасьці“ ўсяе акцыі, ды не ўжываць самога слова „асыміляцыя“. Вось жа ўся гэта тэорыя аб „ўкрадзеных душах“, прапагаваная ў часткі польскай прэсы, а ў кансэквэнцыі і неабходнасьць павароту іх да польскасьці, мае стварыць нічога больш як фікцыю маральнасьці для асыміляцыйнай акцыі адносна беларускага народу. Толькі трэба сказаць, што беларускае грамадзянства добра ар'ентуецца ў ва ўсей гэтай асыміляцыйнай акцыі і калі артыкулы ў польскай прэсе аб „украдзеных душах“ празначаюцца дзеля прапаганды ў яго-ж асяродзьдзі, дык згары можна сказаць, што яны цалком не патрэбны. У існаваньне гэткіх душаў бел. грамадзянства ніколі не паверыць, бо крыху лепш за адкрыўшых гэтыя душы ведае сваю мінуўшчыну як і заданьні ў сучаснасьці і будучыне.

**М. Ш.**

---

**Грамадзяне! Прыпамінаем і просім прысладь складку за газэту! Некаторыя яшчэ дагэтуль ня споўнілі свайго грамадзкага абавязку!**

З гэтага відаць, што прадстаўнікі беларускага грамадзянства не атрымалі ніякіх канкрэтных абяцаньняў у справе адчыненьня закрытых беларускіх арганізацыяў, і гэта ў той самы час, калі адчыняюцца літоўскія! Памінаючы ўжо такое элемэнтарнае права кожнага народу, як права мець свае собскія культурна - прасьветныя арганізацыі, беларускае грамадзянства справядліва ставіць пытаньне, чаму такія няроўныя адносіны да беларускай і літоўскай меншасьці? Чаму літвіном дазваляецца адчыніць іхныя закрытыя арганізацыі і варочаецца ўся маемасьць, а беларусам не? Ці літвіны лепш спаўняюць свае грамадзянскія абавязкі? Ці літвіноў болей у Польшчы? А можа дзеюць тут якія іншыя прычыны? У кожным прыпадку беларусы чуюцца моцна пакрыўджанымі.

### АДКАЗ „ХР. ДУМЦЫ“.

У вапошнім нумары „Хр. Думкі“ (10.VI) мы знайшлі дзьве зацемкі, якія нас нямала зьдзівілі. Зьвярнуў нашу ўвагу ня так нападаючы тон, як сам зьмест зацемак. Бо ў першай зацемцы „Хр. Д.“ прабуе крытыкаваць наша становішча ў справе кансалідацыі беларускага грамадзянства, аб чым мы пісалі ў папярэднім нумары „Б. Фронту“. Там мы выразілі пагляд, што „каб наступіла сапраўдная кансалідацыя, патрэбны два варункі: 1) **адна ідэя,** а гэтай ідэяй ёсьць ар'ентацыя на свой беларускі народ і яго найвышэйшую Ідэю, 2) **незалежнасьць ад чужых сілаў** і ўважаньне сваей палітычнай ар'ентацыі не за догму, але за тактыку, якую заўсёды можна зьмяніць для дабра беларускага народу“. Найболей не спадабаўся „Хр. Думцы“ наш другі варунак, іменна, незалежнасьць ад чужых сілаў і „Хр. Д.“ ставіць нам закід, што „пісаніна і ўпорна-злоснае пашыраньне думкі аб тым, што быццам беларускі рух залежны ад чужых сілаў — гэта-ж інсынуацыя, якую пашыраюць варожыя да бел. руху чужыя дзейнікі, каб пасварыць беларускія грамадзка - ідэолёгічныя ўгрупаваньні між сабою, і гэтым самым аслабляць Беларусаў агулам, а таксама кампрамітаваць беларускую нацыянальную ідэю“.

На гэта адказваем: 1) Мы ў нашым артыкуле не закідалі „Хр. Думцы“ залежнасьці ад чужых сілаў (мы гэту залежнасьць закідалі каму іншаму), дык былі нямала зьдзіўлены тым, што нашы варункі знайшлі водгук у “Хр. Думцы“.

2) Мы далей стаім на тым становішчы, што кансалідацыя з тымі беларусамі, якія ар'ентацыю на чужыя сілы ставяць вышэй за ар'ентацыю на свой беларускі народ, немагчыма. Але мы і цяпер нічога ня кажам, што гэтакая ар'ентацыя існуе якраз у рэдакцыі „Хр. Думкі“. Аб гэтым „Хр. Думка“ павінна сама сказаць.

А цяпер другая справа. „Хр. Думка“ абурваецца на нас, што мы, падаючы вестку аб высяленьні з Стоўпцаў беларуса, вуніяцкага сьвяшчэньніка а. Л. Гарошкі, напісалі, што а. Л. Гарошка апроч душпастырства ў Стоўпцах ня вёў ніякай грамадзка - беларускай працы і паміма гэтага яго высялілі. Тут нам „Хр. Думка“ ставіць такі закід: „а **беларускае** душпастырства гэта не грамадзкая праца? На гэта адказваем, што беларускае і ўсякае іншае душпастырства — гэта ёсьць перш за ўсё **рэлігійная** праца, а потым ўжо грамадзкая. Бо грамадзкай працай агульна прынята лічыць усякую дзейнасьць у шырэйшым грамадзкім маштабе, а не ў вузкіх канфэсыянальных рамках. Праца а. Л. Гарошкі былаб сапраўды грамадзкай працай ў шырокім значэньні, каліб ён працаваў у грамадзкіх арганізацыях (рэлігійных ці сьвецкіх) хоцьбы ў зьвязку з сваім душпастырствам, але мы аб такой працы ня чулі, ды і сама „Хр. Думка“ сьцьвярджае, што а. Л. Гарошка паза душпастырствам іншай працы ня вёў, бо ня мог. Дык чаго хоча „Хр. Думка“? Абараніць а. Л. Гарошку? А нам здаецца, што такой пісанінай яшчэ можа яму ў цяперашніх варунках пашкодзіць. А можа хоча спрачацца, ці душпастырства ёсьць грамадзкай працай ці не? Калі мае ахвоту няхай гэта робіць; мы ў гэтай справе маем іншы пагляд і цалком утоесаміць душпастырства і грамадзкую працу ня можам. Паміж імі ёсьць такая розьніца, як паміж часткай і цэласьцяй. Кожны прызнае, што паміж „беларускім душпастырствам“ і „беларускай грамадзкай працай“ ёсьць вялікая розьніца. Няўжо „Хр. Думка“ гэтай розьніцы ня бачыць?

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

**Беларуская Кальварыя.** Дня 4.VI. беларусы-каталікі абходзілі дарогі Мукі Хрыстовай у падвіленскай Кальварыі. Народу было каля 800 чалавек, якія былі прыйшоўшы і прыехаўшы з усіх бакоў. З адных Жодзішак было 100 чалавек, якія сваім зарганізаваным, стройным і сапраўды „народным“ пяяньнем беларускіх рэлігійных песьняў, разам з іншымі беларусамі, прычыніліся да падняцьця сьвяточна - рэлігійнага настрою пілігрымкі. Ня гледзячы на дождж, які ішоў праз увесь час абходжаньня стацыяў, ніхто не пакінуў радоў працэсыі. Абводзілі пілігрымку па Кальварыйскіх стацыях (ёсьць іх там 35) і гаварылі адпаведныя навукі беларускія ксяндзы: а. Ст. Глякоўскі, які ёсьць прэфэктам у Бел. Гімназіі і спаўняе абавязкі душпастыра пасярод віленскіх беларусаў - каталікоў; а. В. Шутовіч, прэфэкт з Харошчы і а. В. Гадлеўскі, прэфэкт у Вільні.

**Забарона канцэрту.** Як мы паведамлялі ў мін. нумары „Б. Фр.“, у суботу 3.VI меўся адбыцца бел. канцэрт з удзелам слаўнага пяюна М. Забэйды-Суміцкага. Аднак унівэрсытэцкія ўлады, апіраючыся на адмоўнай дэцызіі адміністрацыйных уладаў (Віл. Гарадзкога Стараства), на канцэрт не далі дазволу. Характэрна тое, што ўлады ўнівэрсытэту ў падобных выпадках дамагаюцца дазволу Старажства толькі ад беларускіх арганізацыяў. Усе напр. польскія студ. арганізацыі ладзяць культ. імпрэзы ў межах унівэрсытэту, толькі за дазволам уладаў унівэрсытэцкіх.

**Беларуская антолёгія.** „Калосьсе“ прыступіла да выданьня беларускай антолёгіі, або збору твораў лепшых бел. паэтаў паваеннай пары. У антолёгію ўвойдуць творы каля 50 паэтаў: усходніх і заходніх. Падпіска на адзін экзэмпляр антолёгіі выносіць 5 зал.

# На міжнародным ґрунце

### АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Найбольшую ўвагу ў першай палавіне чэрвеня зварочвала на сябе цікавая англійска - савецкая ігра, якой мы прысьвячаем у гэтым нумары цэлы артыкул. Чым гэтая ігра скончыцца і хто каго „надуе“, ці англійскі лёрд маскоўскага бальшавіка ці наадварот — згадаць пакульшто трудна, але трэба сьцьвердзіць, што страх, каб ня быць „надутымі“, характэрызуе як адну так і другую старану і зьяўляецца між іншым прычынай такога доўгага зацягваньня перагавораў. Абедзьве староны маюць да сябе вялікі недавер, а дзе вялікі недавер, там малы саюз. Ня маючы пэўнасьці ў бальшавіцкай помачы, англійскі кароль Юры VI паехаў шукаць саюзьнікаў у Амэрыцы, наўперад у Канадзе, якая зьяўляецца англійскай даменіяй, а потым у Злуч. Штатах, дзе англ. караля вельмі сардэчна віталі і абяцалі памагчы пакульшто толькі ваенным матар'ялам, прыгэтым англ. кароль прасіў Рузвэльта адведаць Англію.

Мабілізацыя сіл і саюзьнікаў адбываецца далей, прыгэтым Англія хоча прыцягнуць да сваей палітыкі Саветы і Амэрыку, а Нямеччына — Японію, Югаславію і Гішпанію. Японія, карыстаючыся эўрапэйскім канфліктам, прабуе ліквідаваць „міжнародныя“ канцэсіі ў Кітаі, належачыя да Англіі і Францыі і грозіць, што калі Саветы падпішуць вайсковы саюз з Англіяй, яна зробіць тое самае з Нямеччынай і Італіяй. У Гішпанію, пасьля выезду італьянскіх і нямецкіх „ахвотнікаў“ быццам прыехалі новыя італьянскія аддзелы і ген. Франко штораз болей прыхіляецца да вайсковага саюзу з восяй Рым-Бэрлін. Відаць хоча ўзяць удзел у змаганьні з Англіяй і Францыяй, каб быць прысутным пры падзеле іхных калёніяў...

Міжнароднае палажэньне завастраецца штораз болей і ўсе чакаюць рашучых падзеяў у жніўні або верасьні сёлета. У Нямеччыне прыхільнікі г. зв. маланкавай вайны быццам узялі верх і гатовяцца да выступленьня. Нямецкая і італьянская прэса, у сувязі з выпадкамі ў Гданску, зьмяшчае вельмі вострыя артыкулы, у якіх грозіць Польшчы ўтратай незалежнасьці. Чэмбэрлен і Галіфакс, у вобліку надыходзячых падзеяў у сваіх прамовах, сказаных у мін. тыдні, выявілі ахвоту да гутарак з дзяржавамі „восі“, дзеля гэтага былі разыйшоўшыся чуткі аб **новым Мюнхэне**, г. зн. аб новай згодзе паміж Англіяй і Францыяй — з аднаго боку, а Нямеччынай і Італіяй — з другога. Ясна, што гэтая згода наступілаб коштам нейкай іншай дзяржавы, так як у Мюнхэне наступіла коштам Чэхаславаччыны. Словам, яўная і падземная дыпляматычная вайна, якую Муссоліні назваў „белаю вайною“, ідзе ўсею параю — і калі не давядзе да новага Мюнхэну дык давядзе да новага Сараева, г. зн. да выбуху новай страшэнннай вайны.

### БУДЗЕ САЮЗ, ЦІ НЕ?

Англійска-савецкія перагаворы, якія былі спыніўшыся пасьля прамовы Молатава, узнавіліся. У Маскву паляцеў на аэрапляне (13.VI) англ. дыплямат Стрэнг, спэцыяліст ад спраў сярэдняй і ўсходняй Эўропы, вязучы ад Англіі і Францыі новыя прапазыцыі. У гэтых прапазыцыях Англія і Францыя быццам годзяцца з жаданьнямі Саветаў і ў вобліку сьмяротнай небясьпекі хочуць кончыць перагаворы за ўсякую цану. Швайцарская прэса піша, што Саветы разумеюць прыкрую сытуацыю, у якую папаў Чэмбэрлен, гварантуючы дапамогу Польшчы, Румыніі, Грэцыі і Турцыі і дзеля гэтага ня ўступяць у ніводнай справе. Цяпер стварылася такое палажэньне, што не Англія але Саветы дыктуюць сваю ролю. Саветы ня пойдуць на згоду з Нямеччынай, хоць гэта апошняя згоды хоча, але і ня будуць ваяваць за інтарэсы Англіі.

Найбольшым разыходжаньнем паміж Англіяй і Саветамі зьяўляюцца Прыбалтыцкія дзяржавы: Эстонія, Латвія і Фінляндыя, якія, паміма іх волі, Саветы хочуць канечне „гварантаваць“. Саветы баяцца, што Нямеччына, карыстаючыся з слабасьці Прыбалт. дзяржаў, захоча заняць іхныя тэрыторыі і так стварыць пляцдарм дзеля паходу на Саветы. У адказ на гэта Нямеччына робіць вымоўны гэст: яна падпісвае пакты ненападаньня з Латвіяй і Эстоніяй, хочучы гэтым паказаць, што яна на Саветы ісьці ня збіраецца... Аднак і тут Саветы ня вераць і далей дамагаюцца „гваранцыі для Прыбалтыцкіх дзяржаў, з тым, каб Саветы ў кожную хвіліну магліб іх бараніць... На гэтую ахвоту Саветаў да „абароны“ міністар загр. спраў Фінляндыі заявіў, што каліб нехта няпрошаны прыйшоў бараніць ягоны край, з такім „абаронцаў“ ўся Фінляндыя будзе змагацца з аружжам у руках.

Паводле апошніх вестак Саветы маюць паставіць Англіі **яшчэ адзін варунак:** забарону ўкрапленьня Аляндзкіх астравоў на Балтыцкім моры, а якія хочуць украпіць Фінляндыя і Швэцыя. Саветы баяцца, што Нямеччына можа выкарыстаць гэтыя астравы ў будучай вайне. (Блізкія зносіны Нямеччыны з Фінляндыяй агульна ведамы). Калі Саветы далей будуць ставіць ўсё новыя варункі — гэта знак, што заключаць саюзу з Англіяй яны ня маюць ахвоты.

### НЯЛАД У САВЕТАХ.

Аднэю з прычын няўмешваньня Саветаў ў цяперашнія ваенныя камбінацыі ёсьць іхныя нутраныя непарадкі. У вапошнім часе прыйшлі весьці аб новай вялікай „чысткі“ у вярхох камун. партыі і дзяржаўнаге апарату. І так — звольнілі з становішча і зьліквідавалі старшыню вярхоўнага сав. трыбуналу Ульрыха, які засудзіў на сьмерць многіх старых і заслужаных бальшавікоў, як Зіноўеў, Тухачэўскі, Убарэвіч і іншых; звольнілі і зьліквідавалі пракурора Вышынскага, каторы іх вінаваціў, зьліквідавалі шмат іншых выдатных камуністычных дзеячоў. Камісар унутр. спраў Бэрыя закідае ім, што яны нямецкія агенты і судзілі на сьмерць найлепшых камуністаў і найлепшых сав. афіцэраў, як маршал Тухачэўскі... У Саветах пашыраюцца чуткі, што паляк Вышынскі вінаваціў, а немец Ульрых судзіў на сьмерць найлепшых бальшавікоў, з тэй утаенай мэтай, каб аслабіць Саветы. Нядаўна арыштавалі начальніка сав. генэральнага штабу Шапашнікава за тое, што і ён нямецкі агент і быццам зьліквідавалі яго без працэсу, каб было цішэй... Сапраўды, нейкія жудасныя падзеі адбываюцца ў Саветах! Цікава, якую ролю ва ўсіх гэтых справах адыгрывае Сталін, які пазволіў зьліквідаваць столькі найлепшых бальшавікоў! Бо ўсім ведама, што ніякі Вышынскі не пасьмеўбы вінаваціць старых бальшавікоў і ніякі Ульрых не пасьмеўбы іх судзіць, каб на гэтае не сгаджаўся Сталін. Можа дачакаем таго часу, калі будуць пісаць, што і Шапашнікаў быў добры камуніст, але яго зьліквідавалі нямецкія агенты! З гэтага відаць, што ў Саветах нешта не ў парадку! Зразумелая рэч, што пры такіх нутраных непарадках Саветы ў першы бой ня пойдуць, бо пры першай няўдачы армія шукалаб нямецкіх агентаў усюды: і ў ген. штабе і ў Крамле...

### НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ.

У Кітаі зварочвае на сябе ўвагу востры канфлікт паміж Японіяй і Англіяй за „міжнародныя канцэсіі“. „Канцэсіі“ знаходзяцца ва ўсіх большых гандлёвых цэнтрах, як Шанхай, Тьентсін, Ганкоў, Кантон і інш.

Японія, заняўшы гэтыя гарады, не магла сьцярпець, каб другія дзяржавы пад яе апекаю праводзілі свае гандлёвыя інтарэсы і дзеля гэтага прыступіла да іх ліквідацыі. Японія ў Тьентсіне 13.VI. акружыла войскам англійскую і францускую канцэсію, не прапускаючы нікога ні туды, ні адтуль, так што спынены ня толькі гандаль, але і ўсякія зносіны канцэсіяў са сьветам. **Японія, як відаць, прыступіла да ліквідацыі англійскіх і францускіх інтарэсаў у Кітаі.** А гэта мае сваё значэньне. „Таймс“ сьцьвярджае, што Японія паставіла Англію ў такім трудным палажэньні, у якім яна ня была ад пачатку кітайска-японскай вайны.

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski. Druk. M. Bogatkiewicza i Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.